падшыўка

# БЯРОЗКА



САКАВІК

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ 1946 г.

3

**БЯРОЗКА**

*Штомесячны дзіцячы часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ*

*Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!*

№ 3

САКАВІК 1946 г.

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ

# ПЛАН ВЯЛІКІХ РАБОТ

12 сакавіка ў Маскве сабраліся дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР на першую сесію.

Побач з іншымі пытаннямі, дэпутаты заслухалі і зацвердзілі пяцігадовы план аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі нашай краіны на 1946—1950 гады.

Непазнавальнай стане наша Радзіма праз пяць год. За гэты час мы поўнасцю залечым раны вайны і даб'емся новага росквіту.

Вось некалькі цудоўных лічбаў:

19,5 мільёнаў тон чыгуна;

25,4 мільёны тон сталі;

250 мільёнаў тон вугалю;

35,4 мільёны тон нафты;

82 мільярды кілават-гадзін электраэнергіі;

500 тысяч аўтамабіляў;

127 мільёнаў тон збожжа;

4 мільярды 686 мільёнаў метраў баваўнянай тканіны.

Усё гэта будзе здабыта і выраблена ў Совецкім Саюзе ў 1950 годзе.

Што азначаюць гэтыя лічбы? Аказваецца, калі-б тканіну, якую выпусцяць нашы фабрыкі ў 1950 годзе, сшыць істужкай, дык гэтым поясам можна абвіць зямны шар 117 разоў! З гэтай тканіны можна пашыць 1 мільярд 556 мільёнаў сукенак.

Вось што на справе азначае адна з гэтых цудоўных лічбаў.

А што такое кілават-гадзіна? Гэта тры рабочых дні дужага чалавека. Цяпер падлічыце, якой сілай уладае лічба 82 мільярды кілават-гадзін.

З нафты, калі яе зліць у адно месца, атрымалася-б цэлае мора.

Вугалем можна нагрузіць 12 паяздоў... кожны даўжынёй ад Масквы да Владзівастока.

Кожную хвіліну будуць сыходзіць з канвейера два новых аўтамабілі.

А чыгуна і сталі нам хопіць і для новых машын, і для ўзбраення Чырвонай Арміі.

Машына—лепшы памочнік чалавека. Вядома, што адзін камбайн можа зжаць гэтульні збожжа, колькі не сажнуць і 100 жней. І ён не толькі жне, а і малоціць.

Машына робіць чалавека дужэйшым. Але-ж машыну выдумаў і робіць чалавек—вынаходнік, канструктар, вучоны. Вялікіх поспехаў дабілася наша совецкая навука, але яшчэ большага яна павінна дасягнуць у бліжэйшыя гады. Гэта работа таксама ўлічана ў пяцігадовым плане. Нам трэба як мага больш мець сваіх вучоных, інжынераў, тэхнікаў і іншых спецыялістаў.

Вялікага росквіту дасягне за пяцігодку і сельская гаспадарка. К канцу пяцігодкі ў нас будзе больш хлеба, чым было да вайны. Рагатай жывёлы мы будзем мець больш на 29 процантаў, свіней—на 35 процантаў, авец і коз — на 62 проценты.

Па пяцігадоваму плану мы не толькі адновім, што было разбурана фашыстамі, але і зробім нашу краіну яшчэ магутнейшай і багацейшай, чым яна была да вайны.

Вясна. Вялікая вада.

З карціны І. Левітана.

# ЛАСТАЎКІ

*Якуб КОЛАС* *Мал. В. Ціхановіча*

Прыляцела ластаўка з далёкага выраю. Села яна на страху старога гумна і зашчабятала. Вясёленькая песенька яе так і пасыпалася па ўсім двары мілым шчэбетам. Уляцела яна ў гумно, даведалася свайго даўнейшага леташняга доміка. А ён за зіму абсыпаўся, абвіс павуціннем; толькі камячок гразі трымаўся каля сахі, на якую апіралася страха гумна. Туды прыляцела і другая ластаўка. Пашчабяталі яны ўдзвёх, парадзіліся і давай папраўляць сваю хатку; ачысцілі яны яе ад пылу і павуціны.

Кожны дзень па некалькі разоў прыляталі яны ў гумно; насілі ў дзюбах клейкую гразь, замазвалі дзіркі і далей рабілі гняздзечка, каб яно было глыбейшае



*Ён пабраў у шапку маленькіх ластавак і палез з імі на гумно.*

і большае. Доўга працавалі ластаўкі, і вылепілі яны харошанькае, кругленькае гняздзечка. Тады насілі яны перцы і высцілалі імі дно. Самічка-ластавачка несла там свае маленькія, рабенькія яечкі.

Праз тыдняў два з яечак выйшлі голенькія, маленькія птушачкі з жоўценькімі роцікамі. У тое гумно часта прыходзіў гаспадарскі сынок, Пятрусь. Любіў ён, лёгшы на сене, пазіраць, як клапаціліся старыя ластаўкі, носячы корм для сваіх маленькіх дзетак. А маладзенькія ластавачкі садзіліся ў гняздзе ў рад і разяўлялі роцікі, як толькі прылятала да іх якая-небудзь старая ластаўка. Старыя клалі корм кожнай па чарзе. Пятрусь любіў на гэта пазіраць і, лежачы, ціха сам сабе смяяўся.

У Петруся быў сябра, сын суседа, яго равеснік Антось. Завяліся неяк за нівошта хлопцы. Хітры і нягодны Антось, каб зрабіць злое Петрусю, прышоў раз у гумно, як не было Петруся там, і спароў тычынаю гняздо, а сам уцёк. Бедныя, нявінныя птушачкі паскідаліся на сена. Жаласна зачырыкалі старыя ластаўкі, біліся, лятаці, кружыліся над беднымі сваімі дзеткамі. Пачуў Пятрусь іх трывожны крык і кулём кінуўся ў гумно.

«Кот, мусіць», — падумаў Пятрусь і ўзяў аскабалак, каб пачаставаць ласуна, шэрага ката. А як забілася яго сэрца, калі ўбачыў ён, што гнязда не было! Старыя ластаўкі кружыліся каля самага Петруся, усёроўна як прасілі ў яго помачы. Шкада было Петрусю ма-

ленькіх птушачак. Сядзелі яны, бедныя, у куточку і разяўляліся. Доўга думаў добры Пятрусь, як памагчы няшчасным дзеткам-ластавачкам. Усіх было цэлых пяць...

І вось што прыдумаў Пятрусь. Узлез ён на гумно, выдраў на самым валу ямку, абклаў яе пер'ем і збудаваў хітрае гняздзечка. Потым ён пабраў у шапку маленькіх ластавачак і палез з імі на гумно. А каб шапка не перашкаджала яму лезці, ён узяў яе ў зубы. Узлезшы, палажыў ластавачак у зробленае ім самім гняздзечка. Старыя ластаўкі лёталі над Петрусём, яны не ведалі, што будзе рабіць з іх дзеткамі дабрадзей іх, Пятрусь. Паклаўшы ластавачак, Пятрусь злез з гумна і адышоўся, каб не баяліся яго старыя ластаўкі. Убачыўшы, што іх дзеткі ўсе, і ўсе жывы, старыя весела зашчабяталі і паляцелі лавіць мошак на полудзень для сваіх дзетак. А маленькім птушачкам тут было зусім добра, не горш нават, як у гумне. Па некалькі разоў у дзень лазіў Пятрусь на гумно паглядзець, як маюцца ластавачкі. А яны борзда раслі і харашэлі.

Як толькі падымалася хмара, збіраўся дождж, Пятрусь кідаў работу, лазіў на гумно і накрываў гняздзечка разам з ластавачкамі, каб не нацякло туды вады. У Петруся бацька быў добры і не крычаў на яго за тое, што ён парасцягаў трохі на страсе салому, лазячы да сваіх птушачак. Толькі часам пасмяецца з яго і скажа яму: «Эх, ты, ластаўчын бацька!» Але Пятрусь за гэта не гневаўся і не сердаваў.

Старыя ластаўкі перасталі палохацца Петруся, бо ведалі, што не зробіць злога ім і іх дзецям. У харошую пагоду маладыя ластаўкі вылазілі з гнязда і ўвесь дзень сядзелі на сонцы, а на ноч зноў хаваліся ў гняздо, зробленае Петрусём.

Прайшло тыдняў два. Узлезшы на гумно, Пятрусь узяў у руку маладую ластавачку і павагаў яе. Махнула яна крылцамі, фуркнула і паляцела, а за ёю пападымаліся і ўзняліся і другія. Рад быў Пятрусь, што лётаюць яго ластавачкі (ён называў іх сваімі). Вось яны палёталі, пакружыліся і зноў прыляцелі на гумно. А дзянькоў праз два яны ўжо лёталі разам са старымі і самі шукалі сабе пажывы. Вось як Пятрусь даў шчасце добрым нашым прыяцелям— ластаўкам.



# ВЯСНА

*Алесь БАЧЫЛА*

Выходзіць снег. Шчаслівая
Зямля ўстае ад сна.
Вясёлая, шумлівая
Ідзе да нас вясна.

Па ўзгорках прабіваюцца
Травінкі, як штыкі,
Ў палях пераліваюцца,
Гамоняць ручайкі.

Птушыным спевам поўніцца
Зялёны ціхі гай,
Вясенняю бяссонніцай
Увесь узрушан край.

# Карусь КАГАНЕЦ



*Карусь Каганец.*

Карусь Каганец—вядомы беларускі пісьменнік. Сапраўднае яго імя Казімір Кастравіцкі. Вестак аб жыцці пісьменніка захавалася вельмі мала. Нарадзіўся ён на Гародзеншчыне. Пісаць пачаў у 1898 годзе. Прыблізна ў гэтыя-ж гады ён наладзіў сувязь з беларускімі рэвалюцыйнымі гурткамі. Пазней, пасля 1905 года, за рэвалюцыйную работу ён быў арыштаваны і пасаджаны ў Мінскі астрог, дзе ў той час знаходзіўся Якуб Колас. Але гэта не зламала волі пісьменніка да змагання супроць цара і яго парадкаў.

Карусь Каганец змагаўся за тое, каб беларускі народ стаў вольным, каб ён меў свае школы, кнігі, газеты на роднай мове. Ён пісаў прамовы да беларускага народа, а ў мастацкіх творах больш за ўсё апісваў цяжкае жыццё селяніна. Клапоцячыся аб народнай асвеце, ён піша граматыку беларускай мовы, нарысы «Гутаркі аб небе і зямлі», «Нашы птушкі» і інш.

Пра сябе Карусь Каганец пісаў у 1903 годзе:

«Я—кроў з крыві і косць з касці беларуса, каторы меў айчыма мужыка паднямонскага. І сам я часу колькі змалку, а потым, будучы ўжо дзецюком, жыў між сялянамі: разам пасвіў, разам працаваў і цяпер маю між імі сваякоў, дзеля гэтага я маю права павядаць ад імя сваіх сроднікаў-беларусаў».

Карусь Каганец любіў сваю радзіму. Ён добра ведаў народныя песні, казкі, легенды, цікавіўся гісторыяй Беларусі. Некаторыя яго ўласныя творы вельмі блізкія да народных па свайму складу. Асабліва вызначаецца народным складам яго верш «Кабзар».

Ой, вецер шуміць, ой, вецер гудзе,
А цераз поле чалавек ідзе.
Ой, полем ідзе
І штось ён нясе,
І хлопец яго за руку вядзе.
У вёску прышоў, на прызбе ён сеў
І ціха людзям спяванку запеў:

Укруг людзі стаяць,
На старца глядзяць,
Бо дадушы бедным людзям запеў.
Галавою добрым людзям кіўне,
Грудку старую шырока надзьме,
У струны утне,
Слова дабярэ
І песню старую свету пяе.

З захапленнем апісвае Карусь Каганец і прыроду роднага краю.

«Ды і красна-ж бо наша зямліца, усе выгады мае: і скіба ўрадлівая, і лесу багата, і сена аж надта, і рэчак сплаўных многа.

«Вось выйдзі толькі дзе-небудзь на гару, пад гай зялёны, ды азірніся на свет белы. Так душа твая і зрадзее.

«Бач! унізе аж да рэчкі гара зараснікам пакрыта, уся арэшнікам, чаромхай, каліннікам ды малліннікам зарасла. А чаромха то цвіце, няйначай хто пухам лябяжым укрыў, і пах за вёрсты ветрам нясе. А рэчка сама—моў стужка блакітная, між верб ды алешын ветрам раскінутая. А за рэчкай сенажаць аж зіхаціць кветкамі. А далей, за сенажаццю, поле зелянее. А навокал усяго цёмны лес сінее.

«І на гэтай нашай зямлі спрадвеку нашы дзеды-прадзеды жылі, каторыя не раз грэкаў, немцаў і рымлян трaслі...»

Апошнія гады свае пісьменнік правёў у фальварку Люцына, недалёка ад Койданава (цяперашняга Дзяржынска). Памёр Карусь Каганец 20 мая 1918 года.


Шэрая варона.


Крумкач.


Грак.


Галка.


Сарока.


Сойка

*Карусь КАГАНЕЦ*

# НАШЫ ПТУШКІ

## ВАРОНА

Кожны—і стары і малы—ведае варону, птушку шэрую, з чорнаю галавою і чорнымі крыллямі. Плодзіцца яна на ўзлессі, каля палёў, каля рэчак; жывіцца ўлетку хрушчовымі чарвямі, ходзячы за аратым, але выпівае часам яйкі ды выядае малых галышанят іншых птушак, хапае часам гусянят, качанят і куранят.

Голас у вароны брыдкі, ды і сама яна не вельмі прыгожа. Варона прыносіць чалавеку карысць, выбіраючы чарвей, але часам робіць і шкоду.

## КРУМКАЧ

Крумкач, іначай—воран—птушка варонняй пароды, толькі большая за варону. У крумкача пер'е скрозь чорнае, з пералівам, дзюба тоўстая, моцная, ногі таксама. Вока мае быстрае, постаць яго маладзецкая.

Крумкач любіць адзінокае жыццё. Ён закладае гняздо яшчэ зімою дзе-небудзь у вялікім лесе на высокай яліне. Стадамі крумкачы не лятаюць—рэдка бывае, што зояруцца штук пяць-шэсць. Жывіцца крумкач падлінаю. Жыве вельмі доўга,—кажуць, што да сотні гадоў.

У нас дзецям кажуць, што крумкач затым так рана плодзіцца, што пайшоў з мурашкаю аб заклад, хто большую кучу за ноч наносіць, той будзе есці другога. Крумчак з крумкачыхаю насілі-насілі, і на гняздо сабе не панасілі. А мурашка як склікала усіх сваіх сясцер, дык за ноч муравейнік стаў. Дзеля таго крумкач стаў загадзя гняздо закладаць, каб пакуль мурашка прачнецца, можна было дзяцей пагадаваць, а то мурашка нападзе ды паесць іх.

Дражняць крумкача ў нас гэтак:

— Кум, кум, табе мяса, а мне кроў, кроў, кроў!

Гэтак быццам ён ваўка кліча.

Пра крумкача спяваюць у песнях. Яго можна навучыць гаварыць.

## ГРАК

Гэтакая самая чорная, але шмат брыдчэйшая і слабейшая за крумкача птушка. Клюка яго танчэйшая за крумкачову, крум клюкі аблезшы, без пер'я.

Гракі трымаюцца заўсёды вялізнымі стадамі. Плодзяцца ў садах, гаях, дзе многа людзей ходзіць; маладыя гракі любяць прыглядацца звысоку. Гракі любяць таварыства. Яны робяць свае гнёзды адно каля другога, як можна бліжэй, і на адным дрэве бывае часам гнёзд з дваццаць і болей.

Гракі жывяцца ўсялякімі адпадкамі, хрушчовымі чарвямі і размокшым збожжам. Трымаюцца больш каля гарадоў, але ўвосень ляцяць на вёскі, дзе цэлымі хмарамі ўкрываюць раллю.

Пра грака, як і пра крумкача, гавораць ў казках.

## ГАЛІЦА

Увосень з гракамі лятаюць па палях меншыя за іх, харашэйшыя і спраўнейшыя птушкі—галіцы (галкі).

Яны чорныя, з сіcensus сіваватымі галоўкамі. Жывяцца тым, што і гракі. Плодзяцца ў комінах і розных дзірках у мурах.

Галіца, як і грак, птушка гарадская. Яна прыносіць чалавеку найбольш з усіх варонніх парод карысці.



Шпак.

## САРОКА

Да варонняе пароды належыць і белабокая сарока. Сарока мае доўгі хвост, і вельмі рухавая і цікавая птушка. Яна меншая і стараннейшая за галіцу. Сярэдзіна яе тулава белая, а перад, зад і крылле—чорныя. Плодзіцца сарока нізка ў густым маладняку. Яна не любіць вялікай кампаніі. Жывіцца ўлетку чарвямі, яйкамі і маладымі, яшчэ голымі, птушанятамі, а зімою падлятае да хат ды збірае на сметніку ўсякія адпадкі.

Пра сароку кажуць у казках, загадках і ў дзіцячых песнях.



Дрозд.

## СОЙКА

Гэтаксама харошая птушка—сойка. З галавы яна чырвонаружовая, да хваста пераходзіць ў сівы колер; хвост чорны, пад хвастом белыя лапінкі, у крыллях — доўгае пер'е, чорнае з белым, а зверху пакрыта кароткімі перцамі з пярэстымі ўпоперак трохкаляровымі палоскамі: сінімі, белымі, чорнымі. На галаве мае чубок.

Сойка смелая і бойкая птушка. Яна хоць і варонняй пароды, але шмат паходзіць на імялушку, саракапыта ды саракача, якія напамінаюць ужо каршунову пароду.

Сойка робіць больш шкоды, як карысці, бо выдзірае гнёзды птушак. Сойка голасам дражніць другіх птушак. Яна то чырыкае, як сарока, то канюхом кігікае, то савою загукае. Плодзіцца сойка невысока ў густым лесе.

Ва ўсіх варонніх парод яйкі сінія, або шэранакропленыя, як-бы мазкамі.



Салавей.

## ШПАК

Як-бы пераходам ад варон да пявучых птушак з'яўляецца шпак.

На колер ён чорнашэры з залацінста-зялёным пералівам, і кожная пярынка закончана срабрыстай афарбоўкай. Ён мае такую натуру, што пераймае ўсякія галасы. Шпак і гускаю загагоча і як баранавалок, каня поячы, засвішча, то салаўя перадражніць, то курыцу-квактуху, а бывае што і гутарку людскую пераймае.

Шпак, як і ўсе пявучыя птушкі, прыносіць людзям вялікую карысць, нішчачы ўсякую чарву як на полі, так і ў агародзе, у садах і на лугах. Плодзіцца шпак у дуплах.



Івалга.



Голуб.



Зязюля.

Дзе людзі пазналі, якую карысць прыносіць шпак, там ставяць усюды на высокіх тычынах і на дрэве ў садах драўляныя скрыначкі з дзіркаю ў баку. Там шпакі ахвотна робяць сабе гнёзды.

## МІРЭЗА І ДРОЗД

Мірэза, іначай івалга, развесяляе сваім свістам сады і гаі. Яны парамі ўсё пералятаюць з месца на месца, пасвістваючы ды пакрыкваючы.

Далей — дразды: чорны цвыркун, вялікі і малы. Усе дразды хараша спяваюць, асабліва захадам сонца, сеўшы на самай макаўцы дрэва.

Цвыркуны і вялікія дразды трымаюцца грамадою і гнёзды робяць недалёка адзін ад другога. А чорныя і малыя жывуць паасобна і гнёзды робяць у гушчары нізка. Гняздо малога дразда адменнае тым, што з сярэдзіны гладкае, а міска глыбокая, круглая, вылепленая гнілым дрэвам, а іншыя высцілаюць травою, зляпліваючы яе гразёю.



Крутагалоўка.

Дразды нясуць па 4—5 яек. Яйкі сінія, а ў некаторых накропленыя, як у варон.

## САЛАВЕЙ

Салавей жыве асобна па зарасніках над вадою. Салавейка лічыцца першым птушачым спеваком. Гэта невялічкая шэрая птушка з вераб'я велічынёю, адно чутку даўжэйшая, на выгляд паходзіць на дразда.

Пра салаўя шмат гавораць у песнях і казках. Салавейку дражняць гэтак:

«Хто тут? Хто тут? Ты ня клешч! Ты не клешч! Хорт! Хорт! Хорт! Хорт! Кусы, кусы!».

## ІНШЫЯ ПТУШКІ



Ластаўка.

Галавакрут ці крутагалоўка жыве ў дуплах, у садах; як заспявае вясною галавакрут, то знак, што ўжо зіма не вернецца.

Пер'е крутагалоўкі шэрае, добра накропленае ў розныя ўзоры. Яек яна нясе да 12—15 ружова-белага колеру.

Затым ідзе вялікая дружына ўсякіх парод лушчакоў: вераб'і, снігіры, зяблікі, гілы, чыжы, шчыглы, стрыпадкі, сініцы, малінаўкі і шмат іншых.

Далей ідуць: ластаўкі, галубы — буркун, грывач і туркач, зязюля, дзяцел.

Ластаўкі бываюць: звычайная, куронка, беражанка, лысая, вежавая.

Ластаўку-куронку дражняць:

«Пакінула поўны азяроды, — усё перапілі, пералушчылі. А ніхто не такі, як пастух той ліхі. Ён і дома жарэ і ў поле бярэ, ды яшчэ яму мала!»



Чыж.

Голуба-грывача передражніваюць гэтак:

«Мартынку, сынку, падай мне стрэлку, заб'ю я дзеўку — пух!»

Пра ластаўку і голуба, як і пра зязюлю, найбольш спяваюць у песнях.



# Лісты дзяўчынкі Тані

Іван ГРАМОВІЧ

Мал. Н. Гурло

«... Дарагі наш татачка! Пішу табе яшчэ, што капуста ў нас на агародзе вырасла вялікая. Мы з мамкай кожны дзень палівалі яе вадою»...

Пры гэтых словах мы задаволена кіўнулі галовамі і пераглянуліся. Мы слухалі, што пісала свайму бацьку, нашаму зараджаючаму другой гарматы, дзесяцігадовая дачка Таня. Паведамленне пра агарод датычылася не толькі бацькі Міхаіла Барысава, але і нас. Бо справа была ў наступным. Калі сяло Алабушаўка, на Тульшчыне, было вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Таня Барысава прыслала ліст. Напісаны няцвёрдым дзіцячым почаркам, гэты ліст мы чыталі ў акопах Заходняга фронта, за Мажайскам. Тады яна паведамляла:

«Дарагі татачка! Пасылаю табе прывітанне ад мамы, ад мяне і Толіка. Хата наша згарэла. Яе падпаліў рыжы касавокі немец. Ён жыў у нашай хаце. У мяне ён адабраў валёнкі, а ў Толіка — пальчаткі. Я не заплакала, а Толік пачаў плакаць. Тады немец выцяў Толіка, і ў яго з носа пацякла кроў. Мне зрабілася боязна, і я таксама заплакала... А ў хаце немец жыў, як свіння. Усюды напэцкаў і набрудзіў. Я яму сказала, што нельга так рабіць, дык ён кіем мяне ледзь не забіў... А нядаўна мы спаткалі танкі. Мама сказала: «Гэта нашы танкі. Тата прыехаў, не плачце. Мы цябе чакаем кожны дзень. Вяртайся з перамогай»...

Моцна ўсхваляваў нас ліст дзяўчынкі Тані. Мы ўзводам сабралі 615 рублёў і паслалі ў сяло Алабушаўку на Тульшчыне. Калі сышоў снег, наш агітатар сержант Махсон паехаў туды, дастаў недзе расады капуснай, агуркоў і перадаў сям'і зараджаючага.

Бацька Тані, Міхаіл Барысаў, усё быў каля гарматы. Ён быў майстар свае справы, і адлучацца яму не было калі. То было ў канцы нашага першага наступлення пад Масквой. І то, калі мы былі ўжо пад Сталінградам, Таня паведаміла, што капуста на агародзе вырасла. Гэты агарод—наш агарод, наш падарунак.

Над намі кружылі варожыя самалёты. Яны скідвалі на нас шмат бомб, а мы, тым часам, седзячы пасля бою на гарматным дворыку, слухалі гэты ліст Тані і бачылі лісце маладой капусты ў далёкай Тульшчыне.

— Чытай далей,—казаў бацька.

— Ну, тут яна заканчвае, — адказаў Махсон.

«Родны татачка! — гучна прачытаў ён, — дай нам адказ. Мамка казала, што немец да рэчкі Волгі лезе. Ці праўда гэта? Чаму-ж ты яго не прыкончыў? Ты хутчэй напішы мне і маме. Хутчэй, чакаем адказу».

Што мы маглі тады адказаць? Мы маўчалі. У гэтым маўчанні была вялікая нянавісць да ворага. Гэта быў бязмоўны, самы моцны заклік у атаку.

І аднае начы мы сабраліся і пайшлі ў наступленне, аб якім ведаеце вы і ўвесь свет.





# Самы дужы

*Е. КАТОВІЧ* *Мал. Д. Красільнікава*

Іх было шасцёра, здаравенных, чырвонатварых немцаў, самаздаволеных, самаўпэўненых, з тоўстымі сігарамі ў зубах. А ён быў адзін, худзенькі, змораны, хлопчык гадоў чатырнаццаці—пятнаццаці, з бледнымі вуснамі і ліхаманкава-бліскучымі вачыма. У іх на нагах былі добрыя боты, паверх шынялёў—дажджавыя плашчы, а ён быў у лахманах, з адкрытымі грудзямі і босымі пасінелымі нагамі. Ён вёз на ручных калёсцах іх рэчы: чамаданы, пакункі, скрынкі—цэлую гару.

Насустрач ішла жанчына з сваім маленькім сынам.

— Глядзі, мама, які дужы хлопчык; які ён вялікі воз цягне! І яму не цяжка, мама?—запытаўся сын.

— Вядома, цяжка, Петрык,—адказала жанчына, спяшаючыся перайсці на другі бок вуліцы, каб не сустрэцца з немцамі.

— Ён, мусіць, дужэйшы за іх, мама? — зноў запытаўся сын.

Што яму адказала маці, я ўжо не пачуў. У гэты час хлопчык, які вёз паклажу, спыніўся, каб аддыхацца, абцерці з твару струменьчыкі поту і дажджу ды падцягнуць спаўзаўшыя портачкі. Тады да яго падышоў немец і з лаянкай піхнуў нагою ў спіну. Хлопчык пахіснуўся. Мокрая кепка зляцела з яго галавы і ўпала на брук. Хлопчык хмура, спадылба зірнуў на немца, падняў сваю кепку, не спяшаючыся надзеў яе на галаву, яшчэ раз падсмыкнуў портачкі і толькі пасля гэтага марудна пакаціў калёсцы.

Даведзеныя да шаленства яго спакойнымі павольнымі рухамі і незалежным выглядам, немцы нешта абурана залапаталі. Ім хацелася хутчэй схавацца ад непагоды, адагрэцца за шклянкай гарачай кавы, а гэты хлапчук не спяшаўся і быццам не адчуваў ні восеньскага дажджу, ні холаду. Адзін з немцаў моцна сцебануў яго па мокрай спіне бізуном. Хлопчык павёў плячыма, але кроку не прыбавіў і не змяніў свайго незалежнага выгляду.

«Так, Петрык, бадай, твая праўда,— падумаў я.—З сямёх гэты хлопчык, безумоўна, самы дужы»...

* * *

Два гады мінула з таго часу. Аднойчы, выконваючы заданне свайго атрада, я зайшоў на рынак нашага раённага горада. Але якраз у гэты дзень рынак абчапіла паліцыя, і ўсіх мужчын загналі ў камендатуру. Туды-ж трапіў і я. Вадзілі нас на допыт групамі. Калі мяне прывялі ў камендатуру, перад сталом каменданта стаяў яшчэ тонкі смуглявы падлетак гадоў 15—16. Ён глядзеў спадылба і часта падсмыкваў спаўзаўшыя штаны. Вось гэты жэст, гэты погляд напомнілі мне аб тым, што я яго недзе сустракаў.

На ўсе пытанні перакладчыка ён упарта маўчаў. Страціўшы цярплівасць, перакладчык выскачыў з-за стала і ўдарыў яго па твары. Галава хлопчыкава матнулася ўбок, хлопчык пахіснуўся, але на нагах утрымаўся і... зноў на далейшыя пытанні—ні слова. Тады да яго, не спяшаючыся, падышоў сам камендант і спакойна, размерна пачаў біць яго. Хлопчык пахіснуўся, ударыўся спіной аб сцяну і павольна пачаў асядаць на падлогу.

Але як толькі камендант адышоў ад яго, ён цяжка падняўся, выплюнуў разам з крывёю два зубы, звыклым жэстам падсмыкнуў штаны і — зноў ні слова, толькі вочы яго спадылба пазіралі яшчэ больш злосна.

Камендант махнуў рукой канваірам. Два паліцаі схапілі яго і пацягнулі за дзверы. А мне прыпомніўся дажджлівы восеньскі дзень, абарваны хлопчык, які вёз на ручных калёсцах цэлую гару паклажы, шэсць здаравенных немцаў, маленькі Петрык, які ўпарта паўтараў, што гэты хлопчык самы дужы.


Ён канваіраваў чалавек восем фрыцаў.

«Так, Петрык, ты не памыліўся: гэты хлопчык яшчэ раз даказаў, што ён дужэйшы са сваіх мучыцеляў»,—падумаў я.

* * *

І яшчэ раз давялося мне спаткаць гэтага невядомага хлопчыка-героя ўжо ў слаўным 1944 годзе ў толькі што вызваленай вёсцы. За ракой яшчэ кіпеў гарачы бой, а ў вёску ўжо вярталіся жыхары з сваімі пажыткамі. Я гутарыў з старым селянінам, калі раптам пачуў, як за спіной нехта звонкім, маладым голасам падзываў чырвонаармейца і аб нечым пытаўся ў яго. Я аглянуўся—ён! Але як ён змяніўся! Гэта быў ужо высокі, стройны юнак, але погляд у яго быў усё той-жа. Апрануты ў напоўвайсковае, з цэлым арсеналам зброі за поясам, з вінтоўкай у руках, ён канваіраваў чалавек восем фрыцаў, босых, выпацканых у грязь.

— У балоце, як жабы, хаваліся,— смеючыся, паясніў юны канваір.

Іх было цяпер васьмёра. У першы раз іх было шасцёра. І ён быў дужэйшы за іх і тады і цяпер.

# СЫНУ

*Васіль ВІТКА*

Гляджу ў твае чыстыя вочы,
І сэрца імклівае хоча,
Каб вырас ты смелым, сумленным,
Як людзі твайго пакалення.

Каб ззялі і позірк, і слова
Усюды яснотай крыштальнай,
Каб шчыра бярог і ахоўваў
Ты імя заветнае — Сталін.

Любою дарогай-пуцінай
Ідзі, мой сынок, па радзіме.
Не ты сваю долю шукаеш,
Яна цябе кліча, гукае.

Як стромкае свежае дрэўца
Да сонца тугімі лістамі,
Заўсёды імкніся ты сэрцам
Да светлага імені—Сталін.

Ніколі, ніколі, мой сыне,
Не дасць ён у крыўду, не кіне:
І радасць падзеліць з табою,
І ў горы агорне душою.

Народжаны шчасным прадвеснем,
Вітай-жа травінкаю весняй,
Пралескаю цёплых прагалін,
Як словам сардэчнае песні,
Імя любімае — Сталін.

# НАШ КРАЙ

Фота
Н. Латышэўскага





*НА ФОТА: зверху — сасновы бор на Полаччыне; знізу — рака Свіслач.*





*НА ФОТА: зверху — краявід на Гародненшчыне; знізу — у Ждановічах (Мінская вобласць).*

# ЦІ ПРАЎ МІША?

*(Адказваем на ліст Паўла Дубовіка)*

## МІША НЕ ПРАЎ

Я ўважліва прачытаў допіс піонера Паўла Дубовіка «Ці праў Міша?» Міша, вядома, не праў. Падобны выпадак здарыўся аднойчы са мною.

Я дружу з Колем Сурначовым. Аднаго разу я загуляўся на вуліцы і назаўтра прышоў у клас непадрыхтаваным.

— Коля, выручы!—сказаў я свайму сябру.— Дазволь спісаць з твайго сшытка практыкаванні па мове.

Каб не пакрыўдзіць мяне, Коля даў мне свой сшытак, і я, спяшаючыся, перапісаў практыкаванні.

І вось на ўроку настаўніца выклікала мяне да дошкі і праверыла мой сшытак. У практыкаваннях яна знайшла 9 памылак: 5 было такіх, як у Колі, а 4 я, перапісваючы, зрабіў сам. Настаўніца паставіла мне «двойку». А мне было і сорамна, і крыўдна.

Цяпер я заўсёды выконваю практыкаванні сам. І хоць сустракаюцца часам памылкі, але «двоек» больш не маю.

**Сёма Гарэлік.**

г. Мінск,
42 сярэдняя школа.

## ЛІСТ ПАЎЛУ ДУБОВІКУ

Прачытаўшы твой допіс, у нас узніклі гарачыя спрэчкі. Справа ў тым, што такія «Мішы» ёсць і ў нас.

Наша звяно вельмі дружнае, і мы далі абяцанне на зборы атрада вучыцца лепш за ўсіх. Але вось наш «чэмпіён» Максім Глінскі так захапіўся лыжным спортам, што пачаў дрэнна займацца. Ён хацеў вучыцца па чужых сшытках, але мы парашылі, што гэта прынясе яму толькі шкоду і будзе ганьбай для звяна. Ён пакрыўдзіўся і перастаў з намі дружыць. Тады мы пагаварылі аб гэтым на зборы звяна. Пасля гэтага Максім Глінскі стаў лепш вучыцца і цяпер нават мае «чацвёркі» і «пяцёркі».

Мы ўпэўнены, што Міша таксама зразумее сваю памылку і зноў стане тваім лепшым сябрам. У гэтым павінна дапамагчы і ваша піонерская арганізацыя.

З прывітаннем

**Грыша Мураўёў.**

Ветрына,
Полацкай вобласці.

## МІША АБМАНВАЎ СЯБЕ І НАСТАЎНІКА

Я думаю, што Павел сам паступіў не патаварыску. Сапраўдны таварыш павінен своечасова паказаць на няправільныя ўчынкі свайго сябра. Павел гэтага не зрабіў.

Спісваннем чужых работ Міша абманваў не толькі настаўніка, але і самога сябе. Нарэшце і выявілася, што ён нічога не ведае. А калі Міша пачаў самастойна працаваць, дык гэта пайшло яму на карысць: ён стаў лепш вучыцца.

Я, напрыклад, адзін раз сама не выканала задання. Але я чэсна прызналася настаўніцы і паабяцала выканаць назаўтра. Сваё абяцанне я выканала і нават атрымала «пяцёрку».

**Галя Пекур.**

г. Мінск,
8 сярэдняя школа.

* * *

# Літаратурныя гульні

Рэбяты! Напэўна многія з вас пасля школы, выканаўшы дамашнія заданні, думаюць: «Чымбы цікавым зараз заняцца?» Над гэтым шмат думалі і мы. І прыдумалі.

Цяпер у вольны час мы не толькі гуляем на вуліцы, але і арганізуем розныя гульні ў памяшканні. Найбольш спадабаліся нам прыдуманыя намі літаратурныя гульні. Яны не толькі забаўныя, але і дапамагаюць вывучаць мову, замацоўваць літаратурныя веды.

Вось як мы іх праводзім.

### «НАБОРШЧЫК»

Удзельнікі гульні запісваюць якое-небудзь выбранае імі слова (пажадана, каб яно мела не менш 6—8 літар); з літар, якія ўваходзяць у гэтае слова, складаюць новыя словы.

Напрыклад, запісалі: «прамысловасць». З гэтых літар можна скласці такія словы: «мова, слава, мора, сыр, сорам» і шмат іншых. Нельга напісаць «волава», бо ў заданым слове толькі адна літара «в». Праз некаторы час кожны зачытвае свае словы і выкрэслівае тыя, якія ў каго-небудзь паўтараюцца.

Лепшым «наборшчыкам» мы лічым таго, у каго засталося найбольш слоў.

### «ХТО ЛЕПШ»

Адзін з удзельнікаў па чарзе задае некалькі слоў-назоўнікаў: з гэтых слоў трэба скласці сказ.

Напрыклад, запісалі мы словы: лыжы, прагулка, заданне, лес. З гэтых слоў Пеця Забаўскі склаў такі сказ: «Як прыемна, выканаўшы дамашняе заданне, пакатацца на лыжах і зрабіць прагулку ў лес». Спачатку мы бралі 2—3 словы, бо чым больш слоў, тым цяжэй прыдумаць сказ.

Пераможцам лічыцца той, у каго к канцу гульні атрымалася больш удалых сказаў, ці нават кароценькае змястоўнае апавяданне.

### «ВЫДАТНЫЯ ЛЮДЗІ»

Сэнс гэтай гульні—на ўмоўленую літару запісаць як мага больш прозвішчаў выдатных дзеячоў навукі, мастацтва, славутых падарожнікаў, вынаходцаў.

Напрыклад, на літару «К» можна запісаць: Кіраў, Куйбышэў, Калінін, Крылоў, Купала, Колас, Капернік і інш.

Гэтую гульню мы часта ўскладняем тым, што побач з прозвішчамі выдатных людзей запісваем, якія нам вядомы іх творы, вынаходніцтвы, адкрыцці, у які час яны жылі і г. д.

### «НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ПРЫГОДЫ»

Кіраўнік гульні, або адзін з удзельнікаў, пачынае апавядаць якую-небудзь гісторыю:

«Быў сонечны, пагодлівы дзень. Мы ўтраіх рушылі ў лес. Толькі ўвайшлі ў гушчар, як раптам...» І на гэтым спыняе апавяданне.

Пасля гэтага кожны апісвае прыгоды, якія здарыліся з таварышамі. Атрымліваецца невялічкае прыгодніцкае апавяданне.

Той, хто напіша больш спісла і цікава, лічыцца пераможцам.

### «ПРЫПЕЎКІ»

Гэтая гульня больш складаная і патрабуе некаторага разумення і навыкаў вершаскладання.

Задаюцца словы—рыфмы для чатырох радкоў, праццей—для двух радкоў, і прапануецца па заданай рыфме скласці вершык ці прыпеўку. Такім вершаскладаннем у свой час займаліся нават Пушкін, Лермантаў і іншыя выдатныя паэты.

Лепшыя прыпеўкі і прыгодніцкія апавяданні мы змяшчаем у сваёй насценгазеце.

А вы, рэбяты, як скарыстоўваеце свой вольны час? Адкажыце нам на гэта праз часопіс «Бярозка».

**Коля ВАЛЫНЕЦ.**
**Валодзя ПАЛЫНСКІ.**






(Аўтабіяграфічная аповесць)

*Янка МАЎР* *Мал. А. Волкава*

## У РОДНЫМ ГОРАДЗЕ

Муры... Велізарныя, чырвоныя, без канца і краю, а вышыня — аж да самага неба... А над імі коміны, яшчэ вышэйшыя. З іх ідзе чорны дым, і разам з імі ідуць і коміны, толькі ў другі бок. У сцяне велізарная чорная брама. Я, мамка і яшчэ другія мамы і дзеці хочам праціснуцца бліжэй да гэтай брамы, а нейкі надобры дзядзька ўсё нас адганяе.

А потым брама адчынілася — і адтуль як рушыць народ! Многа, многа народу... Мамка тады падхоплівае мяне на рукі, і мы ўсе рушым наперад, насустрач гэтым людзям. Пачынаецца вайна: крык, плач, тузаніна...

І ўсё — больш нічога не памятаю.

Пазней я даведаўся, што гэта быў наш своеасаблівы «суботнік»: кожную суботу рабочыя на фабрыцы атрымлівалі «палучку», і кожную суботу многа жанчын з дзецьмі збіралася ля брамы пільнаваць, каб іхнія мужанькі не ўпяклі з «палучкай» у шынок. Стальмі ўдзельнікамі тэтых суботнікаў былі і мы з мамкай. І заўсёды тут было цёмна, чорна, страшна, і сонца тут не было ні разу.

А бацьку свайго я ўсё-ж такі не памятаю, хоць ён памёр, калі мне было гадоў восем. Ды і не памёр ён, а згарэў: ішоў, ішоў па вуліцы, паваліўся, задыміўся, сіні агонь пайшоў—і ад чалавека адзін чорны вугалёк астаўся. Так мне растлумачылі ў свой час добрыя людзі.

...І яшчэ раз ўспамінаюцца мне гэтыя самыя муры, толькі з другога боку, там, дзе было сонца. Тут, ля самай сцяны, працякала рака, шырокая-шырокая. І ад вады падымалася пара. Я сяджу ў мамкі на руках, мне і боязна, і весела, і цікава. Вакол нас таксама многа жанчын і дзяцей, і ўсім таксама весела. А вада аж гарачая. Толькі глыбіня бяздонная ды шырыня неабсяжная.

Раптам, зусім побач, з вады вылезла галава, чорная, кудлатая, і барада чорная, і грудзі чорныя, а вочы зусім белыя, ды зубы бялюткія. Галава так шчыра смяялася, што я зусім не спалохаўся яе. Але затое ўсе жанчыны так закрычалі ды так сталі плюхаць на яе вадой, што яна спалохалася і ўпякла. Гэта і ёсць самае галоўнае, што засталося ў маёй памяці.

А пазней я даведаўся, што мы тады былі на курорце. І што рака была не надта ўжо глыбокая і шырокая: гэта была ўсяго толькі канава, куды выпускалася з фабрыкі адпрацаваная гарачая вада. У тыя часы гэта быў найлепшы курорт для рабочых.

... Мяне загортваюць у тоўстую коўдру так, што я і свету божага не бачу. Потым адчуваю, што мяне нясуць. А потым пачалося нешта зусім незразумелае: штуршкі, шум... а потым—нічога.

Такім чынам я ехаў у бальніцу. Я захварэў на воспу, маці панесла мяне ў бальніцу. А да


*Раптам, зусім побач, з вады вылезла галава.*

бальніцы былі не адна вярста; сілы не хапіла. Маці паклала мяне на замёрзлую зямлю і пэвалакла. Так я і пад'ехаў да бальніцы.

Там было многа жанчын з такімі дзецьмі. Засталася і пры мне маці. Пазней яна перад усімі хвалілася, што, не гледзячы на лячэнне дактароў, яна ўсё-ж такі выратавала мяне. Асноўнае лячэнне было — кампрэсы. І вось аднаго разу маці бачыла, як у суседняга дзіцяці знялі з твару кампрэс, а разам з ім выкаціліся і вочы. Тады мая маці стала здымаць з мяне кампрэс, як толькі доктар адыходзіў, і загортвала зноў перад яго прыходам. Так і выратавала мяне.

Але ўсё гэта было глупствам перад тым, як скачуць пальцы па падушцы. Маці забаўляла мяне такім чынам: паставіць два пальцы на падушку, нібы ногі, і пачне выраблять такія выкрунтасы, што чалавеку большага шчасця і не трэба. Шмат гадоў прайшло з таго часу, а я і цяпер млею, калі ўспамінаю гэтае шчасце.

... Недзе за горадам мы знайшлі зачараваную краіну. Гэта, як цяпер мне вядома, было возера. Але тады гэта быў невядомы і бязмежны свет. І не таму, што там была вялікая водная прастора. Побач было мора, але мы на яго і ўвагі не звярталі. Бо там была толькі чыстая вада, пясок — і больш нічога. А тут... тут мы вады нават не бачылі. Мы бачылі добрае, мяккае, цёплае балота, зарослае чаротнікам і аірам. А сярод гэтага чаротніку было безліч цікавейшых вуліц, завулкаў, затокаў, пратокаў, азёр і ўсякіх закатулкаў. Вада была не абы якая, а густая, зялёная. Вось тут мы, тры-чатыры хлопцы, і жылі. Нам ніхто не перашкаджаў, і мы нікога не чапалі. Ну і, вядома, былі шчаслівейшыя ад усіх.

... Я жыву высока-высока, пад самай столлю, на палацях. На шнуры — фіранка. Калі захачу—магу схавацца за ёй, калі захачу—магу бачыць усё, што робіцца ўнізе. А ўнізе — вялізная пліта, і каля яе завіхаецца мая маці. Яна то ўсміхаецца мне, то крыкне, каб я не зваліўся, а мне так добра-добра. Куды лепей, як вунь таму панскаму хлапчуку, які часам забягае на кухню.

І ўсё-ж такі я аднаго разу зваліўся. Шнур разарваўся, і я бразнуўся галавой аб куфар. Які крык і шум узняла маці! Нават паны прыбеглі ў кухню. Але няма ліха без дабра. У выніку я на гэтай справе нават выйграў: пані прынесла мне чагосьці такога салодкага, такога смачнага, што я гатоў быў яшчэ раз зваліцца, каб толькі яшчэ раз пакаштаваць такое дабро.



*Шнур разарваўся, і я бразнуўся галавой аб куфар.*

Наогул гэты дом трэба лічыць шчаслівым, бо тут мне нават прышлося бачыць ёлку. Яна была ў панскім пакоі. Яна гарэла, блішчэла, вакол яе бегалі вясёлыя, прыгожа ўбраныя дзеці, на ёй былі такія цацкі, такія... што... ну, адным словам, незвычайныя, і музыка была і спевы, нават старыя бегалі і скакалі навокал. А я... я таксама бачыў і агні, і цацкі, і гульні, і скокі, чуў і музыку і спевы і быў шчаслівы не менш ад іх. А мо' крыху і болей. Хоць пазіраў я на ўсё гэта праз шчыліну ў дзвярах, схаваўшыся за нейчай футрай.

Ой, як добра мне тады жылося!

... І яшчэ адзін куток у цэнтры горада: высокі белы дом, брукаваны двор і самае галоўнае— яма для смецця. Уласна кажучы, асноўнай пабудовай і была гэтая яма, а ўсё іншае—так сабе, дадатак да яе. У гэтай яме для смецця я і абсталяваўся, бо нідзе не знойдзеш столькі дабра, як тут. Усё, што толькі можа пажадаць душа чалавека, ёсць у гэтай яміне. Аднаго разу я нават знайшоў там поўпуда добрай мукі. Праўда, не адразу муку, а спачатку сярэбраную лыжку,

а потым ужо, праз сорак год, за яе атрымаў муку, але-ж гэта ўсёроўна.

Тут я першы раз у жыцці і закурыў, але так закірхаўся, што маці пачула аж на трэцім паверсе. Зараз-жа высунулася адтуль і пачала крычаць:

— Ты што там робіш? Я табе дам!

І дала яна нешта такое, што было лепш і за цукеркі, і за пернікі, і за ўсё, што я да гэтага часу каштаваў. Ці то захварэла панскае дзіця, ці заўпарцілася, але ад яго засталося больш за палову шклянкі кавы. І гэтую каву выпіў я сам усю. Наступны раз я кавы пакаштаваў праз гадоў дваццаць, але яна была ўжо не такая смачная, як тады. Пасля таго мне даводзілася каштаваць яе шмат разоў—і ўсёроўна на такую смачную ні разу не натрапіў.

Наш горад быў прыморскі, але мора чамусьці ўспамінаў аб сабе не пакінула. Таксама, як і гавань, і караблі. Толькі адзін факт застаўся ў памяці пра гавань і караблі, і то, мусіць, толькі таму, што мне ўдалося тады нешта смачнае пакаштаваць.

Каменная набярэжная, ля яе стаіць вялікі чорны карабель, а каля яго многа-многа мяшкоў, напоўненых нейкімі чарапкамі. А чарапкі гэтыя можна есці. Ну, а смак іх можа нават лепшы за каву. Нейкі своеасаблівы, ні да чаго не падобны і такі прыемны, што ён заставаўся ў мяне ў роце не менш як поўстагоддзя. Толькі праз поўстагоддзе мне давялося другі раз пакаштаваць такую самую скарынку ад какосавага арэха, але я вымушаны быў зараз-жа яе выплюнуць—надта ўжо нясмачная была яна.

Другі раз успамінаецца мора пры такіх акалічнасцях: вечар; агні; гарадскі сад; пясчаныя дарожкі, і недзе збоку шуміць мора, якога я не бачыў. Мы з мамкай сядзім на лаве, нібы паны якія, і нікога не баімся. Раптам мамка паказвае мне рукою на нешта белае на дарожцы і загадвае падняць. Я бягу—і прыношу насавую хустачку. Яна была з дарагога галандскага палатна. Гэтая хустачка служыла нам гадоў дваццаць і заўсёды была самай каштоўнай рэччу з нашай маёмасці. Другой такой хустачкі за ўсё маё жыццё не давялося набыць. Вось якім чынам мне ўспамінаецца мора.

Можна было-б яшчэ ўспомніць, як мільгалі ногі ля нашага акна. Многа ног, усялякіх, якія толькі ёсць на свеце. Людзей няма, а толькі адны ногі. Я мог іх наглядаць і вывучаць цэлымі гадзінамі. Можна было-б яшчэ расказаць, як кавалерыйскі конь адкусіў мне вялікі палец на



*Людзей няма, а толькі адны ногі...*

правай руцэ. Адкусіў за тое, што я яго ад шчырага сэрца карміў травой. Можна было-б яшчэ тое-сёе прыпомніць, але я думаю, і без таго ясна відаць, які быў мой родны горад і якое ў ім было жыццё.

Магчыма, які-небудзь прыдзірысты чытач скажа, што ў гэтым апісанні наогул няма—ні горада, ні мора, ні людзей, а толькі ўспаміны аб тым, што дзе пакаштаваў.

Можа яно і так, але што ты зробіш, калі толькі гэта і засталося ў памяці. Мусіць, ухіл ужо такі ад нараджэння. А, можа, само жыццё было такое, што не пакінула слядоў ні ад хаты, ні ад сямейнага жыцця, ні ад людзей, ні ад горада і нават ад мора, хоць пражыў я там цэлых пяць гадоў.

# ПРЫЕЗД У ВЁСКУ

Мы апынуліся ў лесе ноччу. Месяц асвятляе дрэвы сіняватым святлом. І туман шматкамі поўзае між дрэў. Мы едзем па дарозе на фурманцы, а месяц не адстае ні на крок, бяжыць побач, чапляецца за дрэвы і ўсё глядзіць на нас. А ў тых кутках, куды ён не можа заглянуць, чорна, страшна.

З намі едзе некалькі фурманак. Яны рыпаюць сваімі коламі на розныя галасы, і гэты рып разносіцца па ўсім лесе. А калі людзі загамоняць, тады і ўвесь лес загудзе. А дзядзькі зусім не баяцца. Некаторыя нават свішчуць, а то і песню пачнуць. Тады ўжо ў лесе нямаведама, што робіцца.

Гэта першы сапраўдны лес, які я ўбачыў на сваім вяку. Які ён вялікі, бясконцы! І таемны, страшны...

Раптам як закрычыць нехта там, у сярэдзіне леса. Ды такім голасам, нібы душаць якогась хлопчыка... Я зусім схаваўся пад маміну хустку, а дзядзька, што з намі едзе, толькі вылаяўся.

— Ах, каб табе разадрала горла!

Маці коратка сказала мне:

— Гэта сава.

Але што такое сава, дзе сава, чаму сава— засталося для мяне невядомым. Ды не толькі сава, але і ўвесь лес, і людзі, што з намі едуць,— таксама для мяне невядомыя. Я ніколі не бачыў такога дзядзькі, які едзе з намі на возе: босы, у белых штанах і белай кашулі, з вялікай чырвонай барадой. Ён пасядзіць на возе бокам, паматае нагамі, а потым саскочыць на зямлю і ідзе побач; потым зноў спрытна ўскочыць на воз, паматае нагамі і зноў саскочыць. А кашуля ў яго падперазана не на жываце, а зусім пад жыватом, і ад гэтага ўвесь дзядзька нейкі смешны.

У гэтую хвіліну мяне больш за ўсё цікавяць два пытанні: чаму месяц увесь час ідзе побач з намі і чаму рыжы дзядзька падперазаны пад жыватом?

На першае пытанне маці адказала зусім проста:

— Ён заўсёды так ідзе.

А на другое—чамусьці раззлавалася:

— А табе што да таго? Як хоча, так і падпяразваецца. Спі!

Але дзе тут спаць, калі навакол усё новае, усё незнаёмае, таемнае і страшнае. А едзем так доўга, што я за гэты час пэўна трохі падрос.

Жудасны момант прышлося перажыць усім нам, калі мы праязджалі каля могілак. Тут ужо і самыя храбрыя дзядзькі сцішыліся. Могілкі былі зусім у лесе, толькі крыху радзейшым. Месяц над імі наўмысля прыпыніўся, каб асвятліць іх сваім бледным святлом. А белыя крыжы нібы пачалі падымаць да яго свае рукі...



*Мы апынуліся ў лесе ноччу...*

Мне прышлося зноў лезці пад маміну хустку, дзе я і заснуў.

Прачнуўся я, калі воз стаяў на месцы. Перад намі была чорная хата, вакол нас гаманілі і мітусіліся людзі, у вакенцы замільгаў агеньчык. Я трапіў у абдымкі да нейкай жанчыны і апынуўся ў хаце на лаве.

Тут для мяне дзіва было не менш, як у лесе. Што ні кажы, а я быў гарадскі жыхар, які прыехаў з культурнага цэнтра ў цёмную вёску. Перш за ўсё у гэтай цёмнай вёсцы святло давала лучына, доўгая-даўжэнная, белая і тонкая. Але, шчыра кажучы, яна мне больш спадабалася, як нашы гарадскія лямпы. Там была адна нуда, а тут — трэск, сіпенне, рух; тут чалавеку было чым заняцца.

Што тычыцца падлогі земляной, з ямінамі, то яна мне спадабалася. Там поўзаў нейкі мой дваюрадны брацік, Васька; а другі такі брат, Янка, стаяў побач у адной кашулі і дзівіўся на мяне як на цуд які.

Здзівілі мяне і два акенцы, праз якія, здавалася, і галавы прасунуць нельга было. А больш за ўсё зацікавілі і нават напалохалі бярвенныя сцены: яны ўсе былі пакрыты нейкімі бліскучымі, чырвонымі жучкамі. Янка скарыстаў момант, каб заслужыць маю ўвагу, і растлумачыў, што гэта—прусы, што яны няшкодныя, і іх баяцца не трэба. І, каб паказаць, што іх не трэба баяцца, ён згроб іх цэлую жменю і паднёс да самага майго носа. Але я так закрычаў, што нехта з дарослых штурхануў кулаком Янку, той паляцеў на земляную падлогу і таксама закрычаў...

Так я апынуўся ў новым, незнаёмым для мяне свеце. Цікава, што ў маёй памяці не засталося ніякіх слядоў аб выездзе з горада, аб чыгунцы, па якой мы павінны былі ехаць досыць часу, ды яшчэ з перасадкай. Відаць, гэтая частка дарогі не затрымалася ў памяці таму, што ў часе яе мне не давялося нічога выдатнага з'есці.

Маці мая прыехала ў сваю родную вёску, Гнілушкі, у сваю родную хату, да сваёй роднай маткі, маёй бабулі. З бабуляй жылі: малодшая маміна сястра, Наста, і старэйшы брат, Кірыла, падобны да цыгана. Тыя два хлапчукі, Янка і Васька, былі яго дзеці. Вядома, жыла тут і іхняя маці. І цяпер вось яшчэ нас двое прыехала...

Вышла так, што ні цётка Наста, ні дзядзька Кірыла да нашага жыцця дачынення не мелі. Пазней Наста вышла замуж, а дзядзька выехаў у Амерыку.

Як яно і павінна быць, найбольш спадабалася мне бабуля. Пазней, калі я пазнаёміўся з імператрыцай Кацярынай II, я ўбачыў, што яна акурат падобная да маёй бабулі, ці бабуля да яе—усёроўна. Толькі бабка мая адзявалася не так, як Кацярына, ды была непісьменная. А так, па розуму, яна была зусім не горшая, а мо' нават і мудрэйшая. Бо яе казкі захаплялі мяне буды больш, як пазней казка Кацярыны пра царэвіча Хлора.

Апрача таго, бабка ведала многа загавораў, таксама мудрых і незразумелых, страшных і таемных. Вельмі шкада, што бабуля памерла надта хутка, і я не паспеў пераняць ад яе мудрасць.

Асобна ад бабулі жыла цётка Аўдулька. Яна была замужам за Міколам Латашонкам, і ў іх была хата з комінам. А ля хаты быў сад—ігруша і дзве яблыні. Гэта былі адзіныя пладовыя дрэвы на ўвесь наш род.

Затым, на самым канцы вёскі жыла яшчэ адна цётка—Вулька. Яна была замужам за Гаўрылам, і іхняя хата была без коміна.

І нарэшце—на свеце была яшчэ адна цётка, Грыпіна. Пра яе казалі такія рэчы, што нават цяжка было даць веры. Жыла яна ў Адэсе, была замужам за паштальёнам, прыбіралася як пані, нават капялюш насіла, мела некалькі сукенак і кожны дзень піла гарбату з цукрам і абаранкамі. А самае галоўнае—яна ўмела і чытаць і пісаць.

Ёю ганарылася не толькі ўся наша радня, але і суседзі. Здараецца-ж такое шчасце чалавеку. А вось Настулі, маёй маме, не пашанцавала. І ў горадзе жыла, і замуж вышла за добрага столяра, а прышлося ўсё кінуць і прыехаць назад, на чужы карак...

Аднаго разу прышоў да нас ліст. Маці пайшла на вёску шукаць чалавека, які прачытаў-бы яго. А потым вярнулася заплаканая і стала нешта казаць бабулі. Я разабраў толькі словы:

— Увесь век па чужых людзях, адна, гаротная...

Бабуля супяшала яе:

— Ну, што-ж,—як усім, так і ёй...

Я падскочыў да мамы і стаў пытацца:

— Мама, чаго плачаш? Пра каго ты гаворыш?

Але маці толькі прытуліла мяне і сказала:

— Ідзі гуляй.

Некаторы час я ламаў галаву, хто такая гэтая адна і гаротная, якая напісала ліст, а мама заплакала. Але доўга думаць аб тэтым не было часу—надта многа было ў мяне сваіх спраў.

(Працяг будзе).



# ЗАМКАВАЯ ГАРА

Старадаўні Мінск узнік на тым месцы, дзе рэчка Няміга злучаецца з ракой Свіслаччу. Спачатку гэта быў невялікі, звычайны драўляны пасёлак. Адсюль пачаў ён расці і пашырацца ва ўсе бакі, раскінуўшыся па абодвух берагах Свіслачы.

Месца, дзе Няміга злучаецца з Свіслаччу, было, паводле сваіх прыродных умоў, вельмі выгодным для заснавання ўмацаванага паселішча.

Тут, на стромкай гары, над ракой высіўся драўляны дзядзінец Мінскіх князёў, ваенны і палітычны цэнтр горада. Вакол дзядзінца мясціліся сялібы заможных людзей, а далей, па ўсіх напрамках, у маленькіх хатках з саламянымі стрэхамі, у вузкіх і звілістых завулках, жылі простыя людзі,—кавалі, ганчары, бондары, рыбакі, рамеснікі, сяляне. Ля самай гары стаялі на прывязі ў вадзе ці ляжалі, выцягнутыя на бераг, чорныя асмаленыя чоўны для рыбнай ловлі і для пераправы.

Пасярод высокай гары стаяў княжы дом, ці як тады казалі—«харомы». Быў ён хаця і з дрэва, як і ўсе хаты ў горадзе, але затое самы вялікі і прыгожы паміж іх, — двухпавярховы, дубовы, з шырокім і высокім ганкам на некалькі прыступак. Дзверы, вокны, ганак і дах княжых харомаў былі ўпрыгожаны складанай, майстэрскай разьбой, пафарбаванай у розныя колеры. Насупроць харомаў князя, пасярод вялікага і прасторнага двара з зялёнай травой, стаяла маленькая драўляная царква з высокай званіцай. Каля харомаў, у розных канцах двара, былі размешчаны гаспадарчыя будынкі і хаты, у якіх жылі княжыя людзі,—поп з сям'ёй і прычотнікамі, дружыннікі, цівуны, слугі. Сядзіба князя на гары была абнесена моцным і высокім тынам з магутных, завостраных дубовых бярвенняў. Па краях гэтага тына былі вежы. Адсюль, з вежаў замка, якія панавалі з свайго ўзвышша над ваколіцамі, можна было далёка сачыць уверх і ўніз па плыні ракі, патрабуючы выкуп і мыту з усіх суднаў з таварамі, якія плылі па Свіслачы. На вежах замка ўдзень і ўночы стаялі вартавыя і пільна паглядалі ўдалечыню: ці не плывуць судны па рацэ, ці не хаваецца для горада небяспека ў густых навакольных лясах. А лясы ў той час вакол Мінска былі вялікія, дрымучыя. Высокай цёмнай сцяной з усіх бакоў акружалі яны горад.

Людзі любілі ў той час сяліцца па берагах рэк, бо рэкі, ва ўмовах лясістай краіны, мелі вялікае значэнне, як асноўны шлях перасоўвання і зносін. Па Свіслачы адбываўся вялікі рух. Плылі шматлікія плыты, чоўны і судны з заморскімі таварамі, з хлебам, мёдам, воскам, скурай і футрамі. Купцы спыняліся ў пэўныя дні каля мінскага дзядзінца. Князю яны плацілі выкуп за права гандлю на гэтым месцы. Да купцоў прыходзілі людзі з навакольных селішчаў.

На зручным, узвышаным месцы, недалёка ад дзядзінца і ад берага, ішоў гандаль. У той час гэтае месца называлася проста Высокім месцам. Было гэта там, дзе знаходзіцца зараз Пляц Волі. Грошай у тыя часы ў людзей было мала. Былі яны вялікія і цяжкія, з срэбра і медзі. Гандаль людзі вялі, звычайна, шляхам абмену. Ад слова «мена», «мяняць» паходзіць і старадаўняя назва горада—Менеск, гэта значыць, месца, дзе мяняюць тавары, дзе адбываецца мена.

Так развіваўся і паступова рос горад. З навакольных селішчаў прыходзілі людзі, вывучалі рамествы, знаходзілі сабе новыя карысныя заняткі і заставаліся ў Мінску, пад аховай дзядзінца. Хаткі новых жыхароў будаваліся часамі даволі далёка ад гарадскога тына, уверх і ўніз па плыні ракі.

У нашы дні ад старадаўняга мінскага дзядзінца ці замка нічога не захавалася. Засталася толькі гара, на якой стаяў замак. Гара гэтая да нашых дзён называецца Замкавай. Вуліцы каля гары называюцца таксама Замкавай і Падзамкавай. Зараз гара парасла высокай зялёнай травой. Яна высіцца сярод руін каля былога Ніжняга рынку і моста праз Свіслач, насупроць гарадской лазні, што на другім беразе. За Замкавай гарой пачынаюцца так званыя татарскія агароды.



Веча

*З карціны В. Васнецова*

# РЭЧКА НЯМІГА

Рэчка Няміга ў Мінску вядома кожнаму, хто чытаў «Слова аб палку Ігаравым»—выдатны помнік старадаўняга эпаса. Пра гэтую рэчку сказана ў «Слове» наступае: «На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі харалужнымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела. Нямігі крывавыя берагі не дабром засеяны, засеяны касцямі сыноў рускіх».

У той час, аб якім гаворыцца ў «Слове», у XI стагоддзі, горад Мінск належаў Полацкаму князю Усяславу Чарадзею, які ваяваў супроць кіеўскага князя Ізяслава. У 1066 годзе ў Мінску, на берагах Нямігі, адбылося вялікае пабоішча між войскамі Усяслава Полацкага і Ізяслава Кіеўскага, маляўніча апісанае ў «Слове аб палку Ігаравым».

У XI стагоддзі, калі адбываліся гэтыя падзеі, рэчка Няміга, прыток Свіслачы, не была такой маленькай, як зараз. Яна мела нават пэўнае гандлёвае значэнне.

На працягу амаль 900 год, якія прайшлі з таго часу, рэчка Няміга абмялела, бо лясы навакол былі пасечаны. Яна страціла сваё ранейшае гандлёвае значэнне і ператварылася ў звычайны маленькі ручай, які цяпер і курыца можа перайсці. У нашы дні ручай гэты цячэ праз Газетны завулак, потым па вуліцы Мяснікова (былой Нова-Маскоўскай), знікае пад зямлю, зноў з'яўляецца на паверхню і, агінаючы Замкавую гару, злучаецца з Свіслаччу. Ад былой Нямігі засталася толькі назва вуліцы — Няміга, дамы якой стаялі калісьці на абодвух берагах рэчкі.

Толькі два разы ў год, кожную вясну і восень, Няміга напамінала аб сабе, зноў ператвараючыся з напоўперасохлага ручая ў рэчку і затапляючы брудная вадой першыя паверхі дамоў на вуліцы Нямізе. У 1925 годзе, для таго, каб пазбавіцца штогодніх паводкаў, рэчка Няміга на ўсім працягу вуліцы была ўведзена пад зямлю ў трубы з бетону. Цяпер яна цячэ пад брукам вуліцы, якая носіць яе імя, і толькі недалёка ад Замкавай гары зноў выходзіць на паверхню, каб злучыцца з Свіслаччу.

**В. ВОЛЬСКІ**




*Мал. Ф. Круглянскага*

Зайчык, зайчык шэры —
Невялічкі рост.
Носік яго белы,
Кароценькі хвост.

Па палях вандруе
Зайчык увесь дзень.
У ямцы заначуе,
Калі ноч ідзе.

Цёмнай ночкай ліску
Бачыць ён у сне.
Быццам ліска блізка —
Да яго паўзе.

Сэрца ў яго б'ецца,
Бегчы ён гатоў:
Вельмі-ж дастаецца
Зайку ад звяроў!

А у небе зоркі
Свецяць-мігацяць,
І палі, узгоркі
У спакоі спяць.

**Коля Тонкавіч**




Салавей-салоўка,
Птушка дарагая,
Зноў дамоў вярнуўся
К нам з чужога краю.

І ў садах спявае
Весела, бясконца:
«Слаўна жыць на свеце
У сваёй старонцы!»

**Н. Парукаў.**

в. Карма,
Добрушскага раёна.

## НАСЯКОМЫЯ-АСІЛКІ




дным з самых дужых асілкаў лічыцца жук геркулес. Хоць ён важыць 6 грам, але вытрымлівае пяжар у 2 кг, г. зн. амаль у 350 разоў большы ўласнай вагі. Каб параўнацца сілай з жукам, чалавек павінен быў-бы несці на плячах гружаны таварны вагон вагой каля 22 тон.

Майскі жук носіць пяжар у 100 разоў большы сваёй уласнай вагі.

Самыя слабыя насякомыя здольны пераносіць цяжар у пяць разоў больша сваёй вагі. Для сярэдняга чалавека вагой у 60—70 кг. гэта азначае цяжар у 300—350 кг.



Мядуза.



Марскі чорт.



Трапічнік (злева) і марскі конік.



Вожык-рыба.

# Жыццё ў моры

У морах і акіянах жыве шмат розных раслін і жывёлін. Тут ёсць расліны—аднаклеткавыя водарасці, якія можна разгледзець толькі праз мікраскоп. Але ёсць і такія расліны, якія дасягаюць у даўжыню да 200 метраў. Растуць яны на берагах мораў і на дне—на невялікіх глыбінях. Водараслямі жывяцца розныя марскія жывёлы (ракі, маленькія рыбкі і інш.). У кроплі марской вады апрача водарасляў можна ўбачыць і шмат іншых аднаклеткавых жывёлінак; гэтыя жывёлінкі маюць шкілецікі і ракавінкі. Пасля адмірання шкілецікі і ракавінкі апускаюцца на дно акіяна ці мора і з часам ператвараюцца ў мел.

На падводных каменнях жывуць многаклеткавыя жывёлы—губкі. Жывяцца яны аднаклеткавымі раслінамі.

У цёплых морах, на мелкіх месцах, часам можна ўбачыць цэлыя калоніі каралавага паліпа. Сярод каралаў ёсць такія, якія ўтвараюць галінкі чырвонага, ружовага, белага, чорнага колераў. Каралы здабываюцца для вырабу розных брошак і іншых упрыгожанняў.

У розных кутках мора можна ўбачыць сотні і тысячы рознай формы, колеру і велічыні чарвякоў. Яны жывуць і на паверхні мора, і на глыбіні ў некалькі кілометраў.

Некаторыя з іх будуюць для сябе домікі і, пераходзячы з аднаго месца на другое, цягнуць за сабою і домікі. У часе небяспекі чарвякі хаваюцца ў домікі.

У вадзе шмат плавае маленькіх ракаў-калянусаў, якімі жывіцца рыба-селядзец. Чым больш у моры такіх ракаў, тым больш бывае і селядцоў.

Па дне мора поўзаюць крабы. Яны жывяцца мёртвымі жывёламі і вырастаюць да вялікіх памераў.

Апрача крабаў жыве ў моры вялікая колькасць малюскаў. Іхняе цела пакрыта зверху шчыльнай вапнавай ракавінай. Ля акіянскіх астравоў сустракаюцца малюскі, ракавіна якіх важыць да двух пудоў.

На дне мора мы можам убачыць таксама марскога вожыка, марскую звязду, марскую лілію.

А колькі відаў рыб водзіцца ў моры. Адны з іх маюць форму тарпеды, другія зусім плоскія, трэція падобны на нашага вожыка. Вось на дне мора сярод каменняў ляжыць так званы «марскі чорт». На галаве ў яго калышуцца вусікі, якімі ён ловіць рыбу. Таксама на дне мора жыве плоская рыба—камбала. Цела яе мяняе свой колер у залежнасці ад колеру таго месца, дзе яна жыве. Гэта робіць яе мала прыкметнай. А ёсць рыбы, якія нават выпрацоўваюць электрычны ток і такім чынам абараняюцца ад драпежнікаў.

У моры жыве шмат траскі, селядцоў, кетаў, гарбушак, сардзінак і млекакормячыя—цюлені, маржы, дэльфіны і кіты.

**А. Маркавец,**
кандыдат біялагічных навук.



Велізарны краб.



Чарапаха ў пагоні за рыбай.



Рыба, у якой расцягваецца жывот; яна праглынула вялікую рыбу, большую чым яна сама.



Бруханогі малюск.

*Л. Н. ТАЛСТОЙ*

# МАГНІТ

У даўнейшыя часы быў пастух; звалі яго Магніс. Прапала ў Магніса авечка. Ён пайшоў у горы шукаць. Прышоў на адно месца, дзе адны голыя камені. Ён пайшоў па гэтых каменнях і адчувае, што боты яго прыліпаюць да гэтых каменняў. Ён дакрануўся рукой—каменні сухія і да рук не ліпнуць. Пайшоў зноў—зноў боты прыліпаюць. Ён сеў, разуўся, узяў бот у рукі і пачаў дакранацца ім да каменняў.

Кране скурай і падэшвай—не прыліпаюць, а як кране цвікамі, дык прыліпне.

Была ў Магніса палка з жалезным наканечнікам. Ён крануў камень дрэвам—не прыліпае; крануў жалезам—прыліпла так, што адрываць трэба.

Магніс разгледзеў камень — бачыць, што падобны на жалеза, і прынёс кавалкі каменя дадому. З таго часу ўведалі гэты камень і назвалі яго магнітам.

Магніт знаходзяць у зямлі з жалезнай рудой. Там, дзе ёсць магніт у рудзе, і жалеза самае лепшае. Сабою магніт падобен да жалеза.

Калі пакласці кавалак жалеза на магніт, то і жалеза пачне прыцягваць другое жалеза. А калі пакласці стальную іголку на магніт ды патрымаць даўжэй, то іголка зробіцца магнітам і пачне да сябе прыцягваць жалеза. Калі два магніты зводзіць канцы з канцамі, то адны канцы будуць адварочвацца адзін ад другога, а другія будуць счапляцца.

Калі адну магнітную палачку рассекчы папалам, то зноў кожная палавінка будзе з аднаго боку чапляцца, а з другога адварочвацца. І яшчэ рассячы—тое-ж самае будзе, і яшчэ сячы колькі хочаш—усё тое-ж будзе паўтарацца: аднолькавыя канцы будуць адварочвацца, розныя чапляцца, як быццам з аднаго канца магніт выпірае, а з другога ўцягвае. І як яго не разламі, усё з аднаго канца ён будзе выпіраць, а з другога ўцягваць, усёроўна як яловую шышку: дзе ні разламі, усё будзе з аднаго канца пупам, а з другога чашачкай. Ці з таго, ці з другога канца—чашачка з пупам сойдзецца, а пуп з пупам і чашачка з чашачкай не сойдуцца.

Калі намагніціць іголку (патрымаць даўжэй з магнітам) і насадзіць яе сярэдзінкай на шпянёк так, каб яна хадзіла вольна на шпяньку, то як хочаш круці магнітную іголку, як пусціш—яна стане адным канцом на поўдзень, а другім на поўнач.

Калі не ведалі магніта, па моры не плавалі далёка. Як выйдуць далёка ў мора, што зямлі не відаць, дык толькі па сонцу і па зорках і ведалі, куды плысці. А калі хмарна, не відаць сонца і зорак, дык і не ведаюць самі, куды плысці. А карабель нясе ветрам і занясе на каменні і разаб'е.

Пакуль не ведалі магніта, не плавалі па морах далёка ад берага; а калі даведаліся аб магніце, дык зрабілі іголку магнітную на шпяньку, каб яна вольна хадзіла. Па гэтай іголцы і сталі пазнаваць, у які бок плывуць. З магнітнай іголкай пачалі ездзіць далей ад берагоў, і з таго часу многа новых мораў знайшлі.

На караблях заўсёды бывае магнітная іголка (компас) і ёсць мерная вяроўка з вузламі на канцы карабля. І вяроўка прыладжана так, што яна разматваецца і па ёй відаць, колькі карабель праплыў.

Так што калі плывуць на караблі, заўсёды ведаюць, на якім цяпер месцы карабель, ці далёка ад берага і ў які бок.



# ЯК ГУСІ РЫМ ВЫРАТАВАЛІ

У 390-м годзе дзікія народы галы напалі на рымлян. Рымляне не маглі з імі справіцца, і каторыя ўцяклі зусім з горада, а каторыя заперліся ў крэмлі. Крэмль гэты называўся Капітолій. Засталіся ў горадзе толькі адны сенатары. Галы ўвайшлі ў горад, пабілі ўсіх сенатараў і спалілі Рым. У сярэдзіне Рыма заставаўся толькі крэмль Капітолій, куды не маглі дабрацца Галы. Галам хацелася разграбіць Капітолій, бо яны ведалі, што там шмат багацця. Але Капітолій стаяў на крутой гары: з аднаго боку былі сцены і вароты, а з другога боку быў круты абрыў. Уночы галы цішком палезлі з-пад абрыва на Капітолій: яны падтрымлівалі адзін другога знізу і перадавалі адзін другому коп'і і мячы.

Так яны пациханьку ўзабраліся на абрыў: ніводзін сабака не пачуў іх. Яны палезлі ўжо цераз сцяну, як раптам гусі пачулі народ, загагаталі, захлопалі крылламі. Адзін рымлянін прачнуўся, кінуўся да сцяны і скінуў пад абрыў аднаго гала. Гал упаў і зваліў за сабою другіх. Тады збегліся рымляне і пачалі кідаць бярвенні і каменні пад абрыў і пабілі шмат галаў. Пасля прышла дапамога да Рыма, і галаў прагналі.

З таго часу рымляне ў памяць гэтага дня завялі ў сябе свята. Жрацы ідуць прыбраныя па гораду; адзін з іх нясе



гуся, а за імі на вяроўцы цягнуць сабаку. І народ падыходзіць да гуся і кланяецца яму і жрацу; гусям даюць падарункі, а сабаку б'юць палкамі да таго часу, пакуль ён не здохне.

# ЗАЙЦЫ

Зайцы лясныя па начах кормяцца карою дрэў, зайцы палявыя — азімінай і травой, гуменнікі—збожжавымі зярнятамі на гумнах. За ноч зайцы пракладаюць на снягу глыбокі, бачны след. Да зайцоў ахвотнікі—і людзі, і сабакі, і ваўкі, і лісы, і крумкачы, і арлы. Калі-б заяц хадзіў проста і прама, то раніцой яго адразу-б знайшлі па следу і злавілі-б але заяц баязлівы, і баязлівасць выратоўвае яго.

Заяц ходзіць уночы па палях і лясах без страху і пракладвае прамыя сляды; але як толькі надыходзіць раніца, ворагі яго прачынаюцца: заяц пачынае чуць то брэх сабак, то скрып саней, то галасы людзей, то трэск ваўка па лесе і пачынае ад страху кідацца збоку ўбок. Праскача наперад, спалохаецца чаго-небудзь—і пабяжыць назад па сваіму следу. Яшчэ пачуе што-небудзь—і з усяго размаху скокне ўбок і паімчыцца ад ранейшага следу. Зноў стукне што-небудзь—зноў заяц павернецца назад і зноў паскача ўбок. Калі відно стане—ён ляжа.

Раніцой паляўнічыя пачынаюць разбіраць заячы след, блытаюцца па двайных слядах і далёкіх прыжках і здзіўляюцца заячай хітрасці. А заяц і не думаў хітрыць. Ён толькі ўсяго баіцца.



# САПЁРЫ

На досвітку армія павінна штурмам выбіць ворага з яго пазіцый. Справа нялёгкая: наперадзе сваёй абароны вораг паставіў дротавыя загароды.

Перш чым штурмаваць варожыя пазіцыі, спецыяльныя армейскія часці павінны зрабіць праходы ў дроце.

І вось ноччу байцы падпаўзаюць да загарод і даўгімі нажніцамі пачынаюць рэзаць калючы дрот.

Нарэшце, некалькі праходаў зроблена, і раніцою, пасля артылерыйскай падрыхтоўкі, па гэтых праходах ідзе наперад пяхота.

Вораг адступае за шырокую раку, узрывае ўсе масты, бо рака з'яўляецца вялікай перашкодай для наступаючых, і вораг хоча за ёй умацавацца. Наступаючым-жа трэба хутчэй перайсці раку. Але танкі, артылерыя і пяхота глыбокую раку ўброд не пяройдуць.

І вось тут зноў прыходзяць на дапамогу тыя спецыяльныя армейскія часці, якія рабілі праходы ў калючым дроце. Байцы, пад агнём праціўніка, у халоднай вадзе будуюць для арміі мост. Будуюць хутка: некалькі гадзін—і мост гатовы.

Праўда, гэты мост мала падобны на нашы жалезныя масты. Ён ляжыць на паверхні вады, але па ім праходзяць пяхота, артылерыя, танкі. Пад цяжарам танка мост выгінаецца і кранаецца вады.

Гэта часовы пантонны мост. Пабудова яго вельмі простая: ставіцца пэлы шэраг гумавых, напоўненых паветрам, лодак, а зверху кладуцца дошкі. Каб мост не адносіла плынню, яго замацоўваюць жалезным тросам, які перакідваюць праз раку.

Армія пайшла ў наступленне. Яна павінна заняць горад. Але вуліцы, будынкі і подступы да горада вораг замініраваў. Прайсці па гораду войскам нельга. Трэба ўсё размініраваць, і за гэтую справу бяруцца тыя самыя часці, якія рабілі ў дротавых загародах праходы і будавалі мост.

Яны знаходзяць міны мінашукальнікамі. Мінашукальнік—гэта палка з магнітным дротам на канцы, ад якога ў навушнікі байца праведзены провад. Баец водзіць палкай па паверхні зямлі і, калі ў зямлі закапана жалезная міна, у магніце мінашукальніка ўзнікае шум, або танклявае гудзенне, накшталт камарынага. На гэтым месцы баец асцярожна пачынае капаць рыдлёўкай і хутка дастае міну з зямлі.

Але такім мінашукальнікам можна знайсці міну з жалезным корпусам. А між тым, часцей за ўсё ўжываюцца міны з цэментным або драўляным корпусам. Такую міну мінашукальнікам не знойдзеш. Яе знаходзяць палкай-шчупам (палка з вострым носам на канцы). Калі дрот палкі-шчупа трапляе на міну, баец асцярожна разгортвае зямлю і выцягвае міну.

Міна за мінай—і дом ужо зусім не страшны для наступаючых. На яго сцяне баец робіць надпіс: «Размініравана».

Дом за домам—і размініравана ўся вуліца. Армія ідзе далей, гонячы ворага і не даючы яму апамятацца.

Што-ж гэта за часці такія, ад якіх залежыць поспех наступаючай арміі?

Часці гэтыя называюцца сапёрнымі, а людзей, якія ў іх служаць, завуць сапёрамі.

Сапёр павінен быць майстрам на ўсе рукі, бо ён умацоўвае абарону войск, будуе супроцьтанкавыя равы і надаўбы, робіць дротавыя загароды, завалы, рамантуе дарогі.

Л. БАЙДАКОЎ



# Лісічка

*Змітрок БЯДУЛЯ*

*Мал. І Давідовіча*

За гарою ёсць даліна,
На даліне ёсць вярбіна.
Пад вярбінай б'е крынічка,
Ля крынічанькі — лісічка.
Не прастая—залатая,
Ходзіць-бродзіць, байкі бае.
Байкі бае, пяе, скача,
Бо ёй весела, няйначай.
Пяе, скача, кліча дзетак,
Кліча дзетак-малалетак
На гулянку ў гасподу
І дае ім пернік з мёдам,
І дае ім булку з макам,
І дае ім шмат прысмакаў,
І дае ім цацкі-грайкі,
Талалайкі, балалайкі.
Тут і котачка шкляная,
Тут і мышка наліўная,
Тут і жабка з белай бляхі,
Тут і хаткі, тут і гмахі,
Змайстраваныя з паперак
Ды з крухмалавых цукерак.
Ёсць і зайчыкі са стужак,
Ёсць і кошачкі са стружак,
З жоўтай гліны чалавечкі,
Алавяныя авечкі.



Цацак шмат лісічка мае
Колькі іх—сама не знае:
Лічыць, лічыць, слепіць вочы,
Лічыць, лічыць балабоча,
Па пясочку піша лапкай.
Раптам знекуль скача жабка.
Гэй!—ад лічбаў на пясочку
Ні круцёлкі, ні значочку,—
Шурам-бурам разляцеліся,
Невядома, дзе падзеліся.
Ліска блытае рахунак,
Кліча дзетак на ратунак.
Дзеткі шчыра памагаюць,
Бо ўжо грамату ўсе знаюць.




*В. БІАНКІ*

*Мал. В. Ціхановіча*

Стаяў у лесе дуб. Таўсты-таўшчэзны, стары-старэзны.

Прыляцеў дзяцел стракаты, шапка чырвоная, нос востры. Па ствале скок-паскок, носам стук-пастук— выстукаў, выслухаў і давай дзірку рабіць. Дзёўб-дзёўб, дзёўб-дзёўб— выдзеўб глыбокае дупло. Лета ў ім пажыў, дзяцей вывеў і паляцеў.

Мінула зіма, зноў лета прышло. Даведаўся пра дупло шпак. Прыляцеў. Бачыць—дуб, у дубе—дзірка. Чым шпаку не церамок?

Пытаецца:

— Церам-церамок, хто ў цераме жыве?

Ніхто з дупла не адказвае, пусты стаіць церам.

Нацягаў шпак у дупло сена ды саломы, пачаў у дупле жыць, дзяцей выводзіць.

Год жыве, другі жыве—сохне стары дуб, крышыцца; шырыцца дупло.

На трэці год даведалася пра тое дупло жоўтавокая сава.

Прыляцела. Бачыць—дуб, у дубе—дзірка з кашачую галаву.

Пытаецца:

— Церам-церамок, хто ў цераме жыве?

— Жыў дзяцел стракаты—нос востры, цяпер я жыву—шпак, першы тут спявак. А ты хто?

— Я сава! Трапіш мне ў кіпці— не плач! Ноччу прылячу—цоп—і праглыну. Ідзі прэч з церама, пакуль цэлы!

Спалохаўся шпак савы, паляцеў.

Нічога не нацягала сава, пачала так у дупле жыць, на сваім пер'і.

Год жыве, другі жыве—крышыцца стары дуб, шырыцца дупло.

На трэці год даведалася пра дупло ваверка. Прыскакала. Бачыць—дуб, а ў дубе—дзірка з сабачую галаву. Пытаецца:

— Церам-церамок, хто ў цераме жыве?

— Жыў дзяцел стракаты—нос востры, жыў шпак—першы тут спявак, цяпер я жыву—сава—трапіш мне ў кіпцюры—не плач. А ты хто?



— А я ваверка—па галінках скакалка, па дуплах сядзелка. У мяне зубы доўгія, вострыя, як іголкі. Ідзі з церама прэч, пакуль цэлая.

Спалохалася сава ваверкі, паляцела.

Нацягала ваверка моху, пачала ў дупле жыць.

Год жыве, другі жыве—крышыцца стары дуб, шырыцца дупло.

На трэці год даведалася пра тое дупло куніца. Прыбегла, бачыць—дуб, а ў дубе—дзірка з чалавечую галаву. Пытаецца:

— Церам-церамок, хто ў цераме жыве?

— Жыў дзяцел стракаты—нос востры жыў шпак—першы тут спявак, жыла сава—трапіш ёй у кіпцюры—не плач, цяпер я жыву—ваверка—па галінках скакалка, па дуплах сядзелка. А ты хто?

— Я куніца—усіх дробных звяроў забойца. Я люцейшая за тхара, са мной не спрачайся лепш. Ідзі з церама прэч, пакуль цэлая.

Спалохалася ваверка куніцы, паскакала.



Нічога не нацягала куніца, пачала так у дупле жыць, на сваёй поўсці.

Год жыве, другі жыве—крышыцца стары дуб, шырыцца дупло.

На трэці год даведалі ся пра тое дупло пчолы.

Прыляцелі. Бачаць—дуб, у дубе—дзірка з конскую галаву. Кружацца, гудуць, пытаюцца:

— Церам-церамок, хто ў цераме жыве?

—Жыў дзяцел стракаты—нос востры, жыў шпак—першы тут спявак, жыла сава—трапіш да яе ў кіпці—не плач, жыла ваверка—па галінках скакалка, па дуплах сядзелка, цяпер я жыву—куніца—усіх дробных звяроў забойца. А вы хто?

— Мы пчаліны рой—адзін за другога гарой. Кружым, гудзім, жалім, пагражаем вялікім і малым. Ідзі з церама прэч, пакуль цэлая!

Спалохалася куніца пчол, уцякла.

Нацягалі пчолы воску, пачалі ў дупле жыць. Год жывуць, другі жывуць—крышыцца стары дуб, шырыцца дупло

На трэці год даведаўся пра тое дупло мядзведзь. Прышоў. Бачыць—дуб, у дубе—дзірышча з цэлае вакнішча. Пытаецца:

— Церам-церамок, хто ў цераме жыве?

— Жыў дзяцел стракаты—нос востры, жыў шпак—першы тут спявак, жыла сава—трапіш ёй у кіпцюры—не плач, жыла ваверка—па галінках скакалка, па дуплах сядзелка, жыла куніца—усіх дробных звяроў забойца, цяпер мы жывем—пчаліны рой—адзін за другога гарой. А ты хто?

— А я мядзведзь Мішка, вашаму цераму крышка!

Залез на дуб, прасунуў галаву ў дупло, ды як націснуў! Дуб напалам і разламаўся,

І церамка не стала.

# Цвыркун

С. ДУДЗІКАЎ

*Мал. Ф. Круглянскага*

Гадзіннік стукае вось так:
  Цік-так, цік-так!
Пяюць камарыкі ўвесь дзень:
  Цінь-цень, цінь-цень!

На вуліцы курыца
Ад сонейка жмурыцца;
Па надворку, каля хаты,
Ходзіць певень зухаваты,
Ўсіх пытае: хто такі?
Нібы стораж ён які.



Раптам —
  шпок!
    Скок — паскок!
Гэта шустры цвыркунок.
    Чык-чок!
Ён да вечара — маўчок!
А пасля ўсю ноч спявае,
Дзеда з бабаю пужае.
    Чык-чок, чык-чок!
Я не клоп, не таракан,
І не зловіце мяне
Ні рукамі, ні ў капкан,
    Чык-чок, чык-чок!
Не злавіць і на кручок.
Я — зялёны цвыркунок.
    Чык-чок!



## ЗАДАЧКА З КАПЕЙКАМІ

Складзіце гэтыя капейкі так, каб атрымалася тры рады і ў кожным па 3 капейкі.



## *ЗАГАДКА*

*Я сягоння хадзіла ў лес,*
*Поўны кошык грыбоў назбірала,*
*І чаму мне адзін грыбок*
*Мама выкінуць вон сказала?*
*Меў чырвоную шапку ён,*
*А на шапцы—белыя плямы.*
*Адкажыце на вуха мне:*
*Як грыбок называла мама?*

*М. ДЗІДЗІНА*

# ШАХМАТЫ і ШАШКІ

Аддзел вядзе С. Турчыновіч.

## ШАХ, МАТ, НІЧЫЯ

Становішча, якое паказана на малюнку (дыяграме), здарылася пасля доўгай ігры. Белыя, як відаць лепш ігралі і дабіліся яўнай перавагі. Апрача таго, яны маюць магчымасць пабіць і апошнюю пешку чорных, але зараз ужо і без гэтага можна заматаваць чорных, г. зн. аб'явіць мат чорнаму каралю.




Белыя сыгралі 1. Ле5—е7 і атакавалі чорнага караля (пагроза пабіць). У такім выпадку белыя аб'яўляюць чорным «шах». На пісьме тэта адзначаецца знакам +, а ход поўнасцю запісваецца так: 1. Ле5—е7+.

Чорныя не хочуць аддаць караля, бо гэта будзе азначаць пройгрыш. Яны адступілі 1... Крb7—a8.

2. Кр b5—b6 d5—d4

Зараз белыя зноў аб'яўляюць шах 3. Ле7—е8. У гэтым выпадку чорнаму каралю некуды адступаць, і куды-б ён не хадзіў, усюды становіцца пад бой. Таму белыя, зрабіўшы ход, аб'яўляюць чорным «мат»—канец ігры. На пісьме гэта запісваецца так:

3. Ле7—е8×.

Але не заўсёды можна дасягнуць мата. Здараецца, што партыя канчаецца «у нічыю».

Партыі «у нічыю» бываюць у наступных выпадках:

1. Не дайграўшы да канца, праціўнікі самі згаджаюцца лічыць сваю партыю «у нічыю».

2. У абодвух праціўнікаў засталося толькі па каралю.

3. Калі абодва праціўнікі тры разы падрад паўтараюць адны і тыя-ж свае хады, што тройчы прыводзяць да аднолькавага становішча.

4. Адзін з праціўнікаў аб'яўляе варожаму каралю «вечны шах». Напрыклад (гл. мал.): чорныя пабілі слана 1... h7:g6. Паколькі ў белых горшае становішча, яны дабіваюцца нічыёй «вечным шахам».




2. Фh5 : g6 + Крg8 — h8
3. Фg6 — h6 + Крh8 — g8 і г. д.

5. Калі на працягу 50 хадоў ніводзін з праціўнікаў не зрабіў хода пешкай і не пабіў варожую фігуру.

6. Шосты выпадак нічыёй—гэта «пат».

Напрыклад, здарылася такое становішча (гл. мал.). Каб не пешка f7, белыя маглі-б адразу даць шах і мат ходам Cd5—e7. Таму белыя паспяшылі раней пабіць пешку і пайшлі: Cd5:f7. Але-ж тут выявілася, што чорнаму каралю некуды хадзіць: яму «пат», гэта значыць—«нічыя».




## № 2. ЦІКАВАЯ КАНЦОЎКА.

У адной партыі маскоўскага шашачнага турніра здарылася такое становішча (гл. малюнак):



На ход белых 1. c3—b4 чорныя адказалі 1... c7—b6? разлічваючы папасці ў дамкі. Аднак, як выявілася, гэта быў памылковы ход. (Правільна было-б іграць 1... c5—b4.) Ігра працягвалася так:

2. b4 — d6 b6 — a5
3. g1 — f2 a5 — b4
4. f2 — g3!! (далёка разлічаны ход белых)
4... b4 — c3 (калі 4... g5 — h4, то 5. e3 — d4 h4 : f2, 6. f4 — g5 з выйгрышам)
5. d6 — c7! d8 : b6
6. e5 — f6 g5 : e7
7. e3 — d4 c3 : e5
8 f4 : f8 b6 — c5
9. f8 : b4 a3 : c5
10. g3 — h4 чорныя здаліся.

## ПЕРШАЯ АГНЯСТРЭЛЬНАЯ СТРЭЛЬБА Ў РАСІІ



ершая агнястрэльная стрэльба была выкарыстана ў Расіі ў 1382 годзе. 24 жніўня 1382 года татарскі хан Тахтамыш падыйшоў да Масквы і асадзіў горад.

Масквічы сустрэлі татар не толькі каменнямі з прашчоў, стрэламі і варам, але і выстраламі з агнястрэльных стрэльбаў. Стралялі яны пішчалямі (цяжкія старадаўнія стрэльбы) і больш лёгкімі стрэльбамі, якія ратнікі насілі за спіной.

Масквічы змагаліся ўпарта, і войскі Тахтамыша ніяк не маглі ўзяць горад. Толькі потым хітрасцю Тахтамыш заняў Маскву.

## ПЕРШЫЯ БОМБЫ



1849 годзе аўстрыйскія войскі асадзілі горад Венецыю. Горад знаходзіўся на астравах і быў недасягаемы для абстрэлу артылерыі таго часу. Тады аўстрыйцы пачалі бамбардыраваць горад з паветра.

Яны пускалі паветраныя шары, да якіх прымацоўвалі 13-кілаграмавыя разрыўныя і запальваючыя бомбы.

Бомбы прывязваліся тлеючым шнурам такой даўжыні, што ён згараў толькі над Венецыяй, і бомба падала на горад.

## ПЕРШЫ ГАЗ І СУПРОЦЬГАЗ



1532 годзе ў Паўднёвай Амерыцы ў баі з іспанцамі індзейцы кідалі на гарачае вуголле тоўчаны перац. «Пара» перцу мае ў сабе раздражальнае вешчаство—капсіцын. Вецер заносіў гэты газ на атрад іспанцаў і прымушаў іх моцна чыхаць.

Іспанцы хутка вынайшлі сродак абароны: яны змочвалі хустачкі воцатам і завязвалі імі рот і нос.

Такім чынам упершыню ў гісторыі былі скарыстаны газ і супроцьгаз.

---

### ЗМЕСТ



На вокладцы: мал. В. Ціхановіча—„Вясна“.
На ўкладках: Багатыры—з карціны В. Васнецова. Вялікая вада—з карціны І. Левітана.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Пушкіна, 55, Дом Друку.

Адказны рэдактар **А. Якімовіч.**

АТ 02021 Здадзена ў набор 4/III-46 г. Падпісана да друку 17/IV—46 г. Друк. акр. 2.

Друкарня імені Сталіна. Мінск, Пушкіна, 55. Тыраж 10000 экз. Зак. 74.

## КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Судно. 3. Гераіня з кінофільма «Чапаеў». 5. Звер Белавежскай пушчы. 7. Летняя дзіцячая гульня. 8. Агародняя расліна. 9. Вокліч па тэлефону. 10. Рыба. 11. Зуб у драпежнага звера. 13. Гора, няшчасце. 16. Вялікі населены пункт. 18. Штучная рака. 20. Пераkладзіна праз роў. 22. Вясенняя з'ява на рэках. 26. Тое, што адкладаюць рыбы. 27. Назва фарбы. 28. Імя дзяўчынкі. 30. Вялікі совецкі садавод.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Дэманстрацыя. 2. Нос птушкі. 4. Слясарны інструмент. 6. Дзіцячы часопіс. 12. Плод паўднёвай расліны. 14. Народны музычны інструмент. 15. Частка агарода. 16. Сукі на дрэве. 17. Дзірка ў дрэве. 19. Высокая трава. 21. Воблака. 22. Рагатая лясная жывёла. 23. Месца рамонту паравозаў. 24. Дрэва. 25. Лёс. 29. Непраўдзівы чалавек.

## ШАРАДА

Мой першы склад заўжды зімой
Качаюць дзеці грамадой.
Другі—на дрэве,—мне павер.
А калі літару цяпер
Уставіш для усёй напрузкі,—
Я ўсім вядомы дзікі звер
Лясоў вялікіх беларускіх.

## ЛАГАГРЫФ

З «Р»—сталіцай я завуся,
І на карце знойдзеш сам;
З «Д»—у неба падымуся
І у момант знікну там.

## ЗАДАЧКА-ЖАРТ

Даўжыня экватара 40.000 км. Калі кожны дзень праходзіць па 20 км., дык наша падарожжа вакол зямлі зойме 2000 дзён, альбо 5 з паловай год.

За колькі дзён мы зробім падарожжа па 89 паралелі, калі даўжыня яе дугі ў $1^\circ$ роўна 1950 метрам, і за які час мы пройдзем па 90 паралелі?

## ГАЛАВАЛОМКА



Чытаючы праз некалькі літар па вялікай акружыне, прачытайце прозвішча вядомага рускага пісьменніка, а па малой акружыне — назву яго твора.

Прыслаў вучань Шнейдэр.

## АДКАЗЫ НА ЗАДАЧЫ, ЗМЕШЧАНЫЯ У № 2

Складзеная з трыкутнікаў карта Зямлі павінна мець форму пяцікanцовай зоркі.

Астравы: 1. Новая Зямля. 2. Ірландыя. 3. Ісландыя. 4. Люсон. 5. Хокайдо. 6. Суматра. 7. Крыт. 8. Цэлебес. 9. Сахалін. 10. Бафінава Зямля.

№ 1. Гета-канал, возера Венеры, возера Ветэры, горад Нарчонінг. № 2. Кільскі канал, востраў Гельголанд, порт Кіль. № 3. Вялікі канал, горад Пейпін, горад Шанхай, рака Ян-Цзы-Цзян. № 4. Суэцкі канал, порт Саид, горад Каір, Краснае мора. № 5. Беламорска-Балтыцкі канал, порт Беламорск. № 6. Днепра-Бугскі і Днепра-Нёманскі каналы; рэкі Вісла, Заходні Буг, Мухавец, Прыпяць, Піна, Ясельда, Дняпро, Шчара, Нёман; гарады Варшава, Кіеў, Гродна.

Егіпецкая задача: 315 быкоў; задача Піфагора: 28 вучняў; Цікавая памылка: лік 8.

Цана 2 руб. 50 кап.



# ЛІС-ПАЛЯЎНІЧЫ

Мал. А. Волкава. Тэкст С. Разака.



Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Вышаў ліс зайцоў страляць.



Працавалі зайкі дзень —
Расшчапілі яны пень.



Бачыць ліс заечы след.
— Вось і будзе мне абед!



Ды няўдалы ліс стралок,
Скокнуў зайка і уцёк.



Даганяе зайку ліс:
Зайка, бач, на пні завіс...



Так папаўся ліс-стралец.
Тут і казачцы канец.

